# ДОБРЫ ВЕЧАР

1993 МАЙ 3 Панядзелак

№ 80 (515)

Цана 5 рублёў

МІНСКАЯ ГАРАДСКАЯ ГАЗЕТА


• МЯСЦОВЫ ЧАС

## «ШТО ГЭТА ЗА НЕЙТРАЛІТЭТ?» —

*здзіўляецца прэм'ер Беларусі. І праўда — дзіўны ён нейкі.*

МАКСІМ ГРЭК, «ДВ».

***Не так даўно пашчасціла мне, паважаны чытач, пасядзець за баранкай новенькай «Таёты». Кандыцыянер, электрычныя шклопадымальнікі, каробка–аўтамат, лічбавы аўдыёкомплекс — заўзяты аўтааматар зразумее, што стрэлка спідометра імгненна скокнула пад дзевяноста. І пачуўшы неўспадзеў непрыемны піск, я нават не ўцяміў, што ж гэта — кантрольныя лямпачкі не гараць, касету не зажавала, магутнасць рухавіка не падае. Супакоіўшыся, я падціснуў педальку падачы паліва і (прабач, ДАІ!) у лічаныя хвіліны загнаў стрэлку за паказчык 120 км/г. І раптам у салоне выразна загучаў пераліў званочкаў у тэмпе... пахавальнага маршу! Японскія хітрыкі спрацавалі, хуткасць я скінуў імгненна — паверце, ехаць пад гэткія пяшчотныя гукі не надта прыемна.***

Пра што я раптам, падумаеш ты, чытач? Ды ўсё пра тое ж — пра дэмакратыю. Чацвёртая ўлада — незалежны друк — і павінен быў бы стаць папераджальным званочкам для ўрада пад час ўсялякіх рызыкоўных эксперыментаў і завіхрэнняў. Як у «Таёце»: зашкаліла — звініць — скінь хуткасць.

Праўда, цяжкавата прывыкаць грамадзянам начальнікам да чалавечай хуткасці. Куды цікавей перакрыць рух на галоўным праспекце горада, выпусціць наперад закупленую за дыфіцытную валюту даішную «Альфа-Рамэо» і пранесціся з ветрыкам па сталіцы. Куды цікавей і прыбраць да рук амаль усе газеты краіны, нагадаць пра датацыі за паслухмянасць і чытаць потым у гэтых лістках пра ўсенародную падтрымку ўрадавых планаў. І ні табе званочкаў, ні нават непрыемнага піску!

А справы тым часам закручваюцца — хоць у набат бі.

Другі месяц у нашай краіне працягваецца ціхае, паступовае, але надзвычай настойлівае скасаванне дзяржаўнай незалежнасці. Другі месяц з актыўнай згоды парламенцкай большасці вядзецца непрыхаваны наступ на канстытуцыйныя палажэнні існавання нашай дзяржаўнасці. І другі месяц са старонак нешматлікіх сумленных выданняў незалежныя палітыкі, эканамісты, палітолагі і журналісты спрабуюць атрымаць адказы, аргументаваныя і канкрэтныя, што ж дасць для Беларусі і яе народа скасаванне самастойнасці? У чым жа выгода для звычайнага беларуса ад эканамічнага саюза ды калектыўнай бяспекі?

Больш таго. Спецыялісты і эксперты, якія валодаюць патрэбнай інфармацыяй, сцвярджаюць рэчы запэўніванням урада прама адваротныя. Газета «Белорусский рынок», якую аніяк не западозрыш у тэндэнцыйнасці, з лічбамі ў руках даводзіць немагчымасць атрымання з Расіі нафты як у саюзе, так і без яго з адной-адзінай прычыны: у самой Расіі нафта адсутнічае. Вайскоўцы, якія прысягнулі на вернасць народу Беларусі, з трывогай тым часам вывучаюць карты Таджыкістана, Арменіі, Азербайджана, Паўночнага Каўказа і з недаўменнем чэшуць патыліцы, шукаючы ў далёкіх гарах геапалітычныя і стратэгічныя інтарэсы Рэспублікі Беларусь.

А ў адказ...

У Брэсце на сустрэчы з афіцэрамі Вячаслаў Кебіч распавёў, да чаго ж імкнецца ўрад. Гэта ліквідацыя ўсіх бар'ераў на шляху тавараў (г.зн. ліквідацыя мытнай і транзітна-падаткавай сістэмы), стварэнне адзінай наддзяржаўнай грашовай адзінкі і адзінай грашова-крэдытнай сістэмы (інакш кажучы, адсутнасць сваёй валюты і падобнай сістэмы ў самой Беларусі і немагчымасць уплыву на інфляцыйныя працэсы), адзіны наддзяржаўны кіруючы орган (ну, вядома, лепш жыць пад чыімсьці кіраваннем). Дадайце сюды ваенна-палітычны саюз, які абавяжа аказваць дапамогу ахвярам агрэсіі (а на тэрыторыі паўднёвых раёнаў СНД між тым лічыцца за добры тон пагрызціся адзін з адным), і можна смела сцвярджаць, што Беларусь не будзе мець і свайго войска, бо нашыя хлопцы ўсё роўна будуць ваяваць у чужых краінах пад чужым камандаваннем.

«Аб якім сёння нейтралітэце можна гаварыць!» — усклікае прэм'ер. І сапраўды, дзіўны нейтралітэт, дзіўная дзяржава — ні межаў, ні арміі, ні валюты, ні фінансавай сістэмы... З усіх атрыбутаў дзяржаўнасці толькі ўрад ды сцяг з Пагоняй і застануцца. Ды і тое — за сцяг з гербам трывожна: калі нават у незалежнай краіне абараніць ад камуняцкіх абразаў іх няма каму, то ў бананавай рэспубліцы тым болей іх страцім.

Ды што там казаць — каторы год жывем у сваёй дзяржаве, а з прамоў урадавых чыноўнікаў ды са старонак саўмінаўскіх газет так і не знікае выраз «наша рэспубліка». Нагадаю, што слова гэта азначае альбо форму дзяржаўнага кіравання, альбо краіну з такой формай кіравання, альбо адміністрацыйную адзінку СССР. Наўрад ці вышэй памянёны выраз азначае «наша форма кіравання». Наўрад ці азначае ён і «наша адміністрацыйная адзінка СССР». А таму пісацца павінна «наша Рэспубліка», маючы на ўвазе скарачэнне ад назову «Рэспубліка Беларусь», калі, вядома, не пакутаваць на сіндром «саўковасці».

Здзіўляе тым часам і логіка нашых урадаўцаў. «Аб якім нейтралітэце можна гаварць, калі на тэрыторыі Беларусі знаходзіцца 35 тысяч ваеннаслужачых Расіі, СНД, членаў іх сем'яў», — лічыць прэм'ер. І неяк забываецца, што на тэрыторыі Беларусі знаходзіцца акрамя таго 9 мільёнаў 965 тысяч грамадзян Рэспублікі Беларусь. «Калі мы маем стратэгічныя ракеты з ядзернымі боегалоўкамі, калі мы не можам існаваць эканамічна, то прабачце мне, што гэта тады за нейтралітэт?» — зноў жа задаецца пытаннем В.Кебіч. Але, прабачце і мне, наколькі я памятаю, Беларусь не валодае ядзернай зброяй: тая належыць Расіі і яе ж афіцэрамі абслугоўваецца, а ў хуткім часе павінна пакінуць нашую зямлю. «Ніводнага віду ўзбраення рэспубліка (з маленькай! — М.Г.) не можа сёння вырабляць», — сцвярджае старшыня СМ. І праз пару дзён паведамляе пра тое, што вядуцца перагаворы аб продажы Таджыкістану беларускай зброі. Вячаслаў Францавіч парадаваў афіцэраў тым, што хутка Саўмін унясе на сесію ВС законапраект аб двайным грамадзянстве. І не дадае, што ў свеце хіба што Ізраіль мае падобнае грамадзянства, збіраючы яўрэяў з усяго свету на «зямлю абетаваную». Для якой нацыі такой жа зямлёй сталася Беларусь?!

Ды годзе, бадай, бо спрэчкі могуць цягнуцца бясконца, а довадаў хопіць і ў «саюзнікаў», і ў «незалежнікаў». А адзіны і непрадузяты суддзя заўсёды народ. Ну, задайце вы яму пытанне, прапанаванае С.Шушкевічам, — «Ці падтрымліваеце вы нейтралітэт Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае адмаўленне ад ўступлення Рэспублікі Беларусь у любыя ваенна-палітычныя саюзы з іншымі дзяржавамі і іх аб'яднаннямі?» Задайце, атрымайце адказ на рэферэндуме, а тады і дзейнічайце. І смела спасылайцеся на народную волю.

Між іншым, сам Шушкевіч «гуляе» сумленна — калі беларусы выкажуцца супраць нейтралітэту, ён пойдзе ў адстаўку. Цікава, у выпадку станоўчага выніку, ці пойдзе ў адстаўку ўрад?! Ці мы ў чарговы раз станем сведкамі руплівай працы міністра абароны па стварэнню беларускай арміі, міністра замежных спраў — на ніве беларускай дыпламатыі, а нашага прэм'ера ўбачым на чале рэфармавання нацыянальнай эканомікі на патрэбы краіны? О то ж нейтралітэт створым!..

• ПАРТАКТЫЎ

## У ПАДТРЫМКУ РЭФЕРЭНДУМА

Ул. інф. «ДВ».

ВЫКАНКАМ Цэнтральнай Рады Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады выступіў з заявай. У ёй выказваецца заклапочанасць тымі абставінамі, што на нечарговай XI сесіі Вярхоўнага Савета большасць дэпутатаў прагаласавала за далучэнне нашай краіны да Пагаднення «Аб калектыўнай бяспецы», падпісанага Расіяй, Арменіяй, Казахстанам, Кыргызстанам, Таджыкістанам і Узбекістанам. Трывога небеспадстаўная. Войскі шэрагу з гэтых краін вядуць ваенныя дзеянні ў розных рэгіёнах былога СССР. Далучэнне да ваеннага саюза з краінамі, якія ваююць, ці палітычна нестабільнымі, з'яўляецца небяспечным і авантурным.

Ігнараванне ўласнай заявы аб імкненні да нейтральнага статуса Беларусі робіць палітыку Вярхоўнага Савета непаслядоўнай і непрадказальнай, што, безумоўна, выкліча насцярожанасць да Беларусі з боку еўрапейскіх краін і нанясе шкоду стабільнасці на кантыненце.

Дарэмна спадзявацца і на тое, што ўступленне ў ваенны саюз будзе спрыяць далейшаму існаванню нашага гіганцкага ваенна-прамысловага комплексу, што Расія будзе несці за нас ваенныя выдаткі і забяспечваць ваенныя заказы для беларускіх прадпрыемстваў.

Расія не мае сродкаў працягваць гонку ўзбраенняў. Танкі і ракеты не заменяць хлеба і масла, таму — як для Расіі, так і для Беларусі —структурная перабудова эканомікі і перш за ўсё канверсія ваенных прадпрыемстваў з'яўляецца непазбежнай.

Нельга лічыць сур'ёзнымі запэўніванні ў тым, што Беларусь зможа ўнесці ў Пагадненне агаворку аб забароне пасылкі нашых вайскоўцаў у «гарачыя кропкі». Усе агаворкі сумесна абмяркоўваюцца ўдзельнікамі Пагаднення і зразумела, што ніводная дзяржава-ўдзельніца не зацікаўлена ў прадастаўленні Беларусі нейкіх асаблівых ільгот.

Яшчэ больш авантурным і недарэчным выглядае спадзяванне з дапамогай ваеннага саюза адрадзіць у той ці іншай форме былы СССР. Мы ўжо ніколі не вернемся ні да унітарнай, таталітарнай дзяржавы, ні да ўнітарнай мілітарызаванай эканомікі.

Грамада цалкам падтрымлівае пазіцыю Старшыні Вярхоўнага Савета С.С.Шушкевіча і ягоную ініцыятыву па правядзенні рэферэндума з фармулёўкай: «Ці падтрымліваеце вы дзяржаўны нейтралітэт Рэспублікі Беларусь, які прадугледжвае адмаўленне ад ваенна-палітычных саюзаў з іншымі краінамі і іх аб'яднаннямі?»

— Мы салідарны з групай народных дэпутатаў, — заяўляюць грамадоўцы, — якая разгарнула ў Вярхоўным Савеце збор подпісаў у мэтах правядзення рэферэндума, заклікаем сяброў Грамады, усіх грамадзян Беларусі арганізаваць збор подпісаў у падтрымку правядзення ўсенароднага рэферэндума па пытанню абнейтральным статусе беларускай дзяржавы.

• ФОТОФАКТ

**С НЫНЕШНИМ состоянием внутренних войск МВД Республики Беларусь, их выучкой и подготовкой, перспективами развития смогли ознакомиться журналисты агентств и ведущих изданий республики на пресс–конференции, которая состоялась в конце апреля в учебном центре под Минском.**

**На снимках: ситуации, которые разыграли бойцы подразделения специального назначения, нередко случаются с ними в реальной службе.**

Фото Аркадия НИКОЛАЕВА, БЕЛИНФОРМ.

## КАЛЯНДАР

**Панядзелак, 3 траўня (мая).**

*СОНЦА — 5.30/20.43*

*Даўжыня дня — 15.14*

*МЕСЯЦ — поўня 6 траўня захад 3.54/ ўсход 17.34*

**ІМЯНІНЫ:**

*Праваслаўныя: Аляксандра, Фёдара (Феодара) і мучаніка дзіцяці Гаўрыіла Беластоцкага, Слуцкага (1690 г.).*

*Каталіцкія: Антаніны, Марыі, Піліпа, Якуба.*

## ПРЫВАТЫЗАЦЫЯ. ПЫТАННЯЎ БОЛЬШ, ЧЫМ АДКАЗАЎ

Ул.інф. «ДВ».

Адбылася сустрэча дэпутатаў Мінгарсавета і раённых саветаў са спецыялістамі ўпраўлення дзяржмаёмасці і прыватызацыі г.Мінска.

Яго начальнік Тадэвуш Маліноўскі пазнаёміў прысутных з ходам і перспектывамі прыватызацыі камунальнай уласнасці, абагульніў мінулагодні вопыт гэтага працэсу ў горадзе (за 1991-1992 г.г. прыватызавана 15 прадпрыемстваў камунальнай уласнасці, пры гэтым на іх базе ўтворана 61 прадпрыемства, маючае правы юрыдычнай асобы). Пераважных накірункаў прыватызацыі некалькі, але для розных па памеру прадпрыемстваў яны павінны быць свае, максімальна ўлічваючыя інтарэсы жыхароў горада, працоўных калектываў, дзяржавы. Пры гэтым змяненне профілю дзейнасці прадпрыемстваў на нейкі перыяд (не менш 5 год) не дапускаецца.

Прыватызацыя — не самамэта, яна праводзіцца для таго, каб прадпрыемства, змяніўшы ўласніка, запрацавала больш эфектыўна, а не для таго, каб папоўніць дзяржбюджэт. Але без развіцця фінансава-крэдытнай галіны, без стабілізацыі грашовай адзінкі працэс прыватызацыі не дасягне мэты. Таксама як і без стварэння рынкавых структур. Выступаўшы паставіў пад сумненне прапанаваную так званую «ваўчарную» (або чэкавую) прыватызацыю і прапанаваў звярнуцца да разгляду гэтага пытання зноў, узяўшы за аснову прымат эканомікі, а не палітыкі.

Шмат увагі было ўдзелена тым пытанням, якія ўзнікаюць пры прыватызацыі — прававым, эканамічным, маральным.

Поўнасцю праграма прыватызацыі з пералікам аб'ектаў яе перададзена ў камісіі Мінгарвыканкама. Пасля вывучэння заўваг, яна будзе вынесена на чарговую сесію Мінгарсавета.

Дэпутаты задалі шэраг пытанняў, на якія былі дадзены адказы кіраўніцтвам упраўлення дзяржмаёмасці. Аднак пытанне, колькі прадпрыемстваў камунальнай уласнасці сёння знаходзіцца на балансе горада, засталося без адказу. Бо няма нават сістэмы ўліку гэтай уласнасці, а выканкамы не спяшаюцца прадстаўляць у дзяржмаёмасць дадзеныя аб ёй.



### ПАВЕДАМЛЕННЕ

Мінскі гарадскі Савет народных дэпутатаў XXI склікання паведамляе, што 12-я чарговая сесія гарсавета пачне сваю работу 11 мая 1993 года ў 9 гадзін у памяшканні Мінгарсавета (пр-т Ф.Скарыны,8, 4 паверх, зала сесій).

Рэгістрацыя народных дэпутатаў пачнецца з 8.30 гадзін.

**ПРЫКЛАДНЫ ПЕРАЛІК ПЫТАННЯЎ ПАРАДКУ ДНЯ СЕСІІ**

**1. Справаздача аб рабоце выканкама Мінскага гарадскога Савета народных дэпутатаў за 1992 год.**

**2. Аб парадку і межах распараджэння дзяржаўнай маёмасцю, якая знаходзіцца ў камунальнай уласнасці г.Мінска.**

**3. Аб зацвярджэнні штрафаў, якія прадугледжаны КаАП на падставе закона Рэспублікі Беларусь «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у Кодэкс Рэспублікі Беларусь аб адміністрацыйных правапарушэннях».**

• АНОНС

## «РАДЫЁ ДЛЯ ЦЯБЕ»?

**ТАК–ТАК, мы яшчэ не знаёмыя. «Радыё для Цябе» — новая штодзённая інфармацыйна–музычная праграма радыёстанцыі «Сталіца». Эфірныя каардынаты: на сярэдніх хвалях — 250,6 метра, на УКХ — 4,16 метра, а таксама на хвалях, якія транслююцца ў абласцях.**

**Мы не сцвярджаем, што «Радыё для Цябе» — «прарыў» на Беларускім радыё. Перакананы толькі ў адным: гэта будзе добрая праграма, закліканая служыць Чалавеку. Аператыўная і неабходная інфармацыя, новая музыка, цікавыя сустрэчы, віктарыны, песня для любімага чалавека, патрэбная рэклама і свой стыль зносін са слухачамі, калі кожны з іх адначасова і ўдзельнік перадачы, — гэта і ёсць «Радыё для Цябе».**

**У нас шмат ідэй. Але, скажам шчыра, не хапае людзей іх ажыццявіць і прыдумаць новыя. Не хапае маладых, творчых, ініцыятыўных і прабіўных, лёгкіх на пад'ём і адказных. Таму, калі хочаце ствараць радыёперадачу, якую будуць слухаць мільёны, марыце пра цікавую насычаную працу і нядрэннае ўзнагароджанне за яе і яшчэ не страцілі надзеі сказаць сваё «я», падумайце... Спадзяёмся, наш зварот заўважаць не толькі калегі–журналісты, а і тыя, хто толькі марыць пра журналістыку альбо захапляецца музыкай, альбо проста багаты на арыгінальныя ідэі.**

**Мы пачынаем... Давайце разам з намі.**

**У працоўныя дні і гадзіны чакаем вас у офісе радыёстанцыі «Сталіца» на вуліцы Захарава, 42, пакой 25. Папярэдне, калі ласка, патэлефануйце: 36–43–51, 36–43–52.**

• ГЭТА ФАКТ

## ГАСТРАНАМІЧНЫ РОЗДУМ

А.ВАН ШТЭЙН

Віктар Гюго задаў сабе аднойчы пытанне: «Ці будуць яны есці?» — і напісаў на гэтую тэму цэлую п'есу. Але яму ніколі не прыходзіла ў галаву спытаць сябе: «Што яны будуць есці?» А гэта куды больш важна. А наводзіць на гэтую думку ўбачанае ў пятніцу ў краме, што насупраць Дома друку. Вядома, якая праблема сёння купіць што-небудзь мяснае. Нядаўняе падаражанне не прыбавіла гэтай прадукцыі ў гандлі. Ды тое-сёе ўсё ж трапляецца. Але што? У згаданай краме пакупнікам прапанавалі ў якасці паўфабрыкату косці па 50 рублёў і германскія каўбасы «Херту» і «Салямі белая». Апошняя аж па 4890 рублёў за кілаграм. І калі косці яшчэ згрызуць сабакі, а на салямі можа спакусіцца якісь камерсант, то што есці тым людзям, якія жывуць ад зарплаты да зарплаты, або на пенсію. Бо аб першы прадукт абломіш зубы, а пакаштаваўшы замежны — пакладзеш іх на паліцу.

## ОТОПЛЕНИЕ ОТКЛЮЧЕНО

23 апреля текущего года Мингорсовет принял распоряжение № 280-р «Об отключении отопления».

Учитывая дефицит топлива в энергосистеме и в связи с благоприятным прогнозом погоды, отключить с 24 апреля 1993 года отопление у всех групп потребителей. Разрешить, до особого распоряжения, включение отопления, по мере необходимости, в детских дошкольных и школьных учреждениях, учреждениях здравоохранения и соцобеспечения, домах ребенка и школах-интернатах.

• РЭПАРТАЖ

## ЛЯГЧЭЙ УТАПІЦЦА, ЧЫМ ВАДЫ НАПІЦЦА

ІВАН КАХНОВІЧ, «ДВ».

**Здаецца, самай характэрнай рысай планавай сацыялістычнай гаспадаркі было тое, што заўсёды нечакана і няўчас пачыналіся зіма і лета, штогод былі складаныя кліматычныя варункі ў сялян. Гэта настолькі ўелася, што і цяпер, калі разбурылі бадай усё былое — і добрае, і дрэннае, — гэтая своеасаблівасць засталася. Пэўна, ужо як нацыянальная рыса. Цяпер вы разумееце, што рэзкае пацяпленне ў апошнія дні ніяк не магло прынесці іншых вынікаў, чым атрымалі.**

**І калі цяпло ў кватэрах, у адрозненне ад мінулых гадоў, адключылі ў некаторых раёнах адразу, то падтрымаць аслабелы ў барацьбе са спякотаю арганізм — напіткам, квасам або марожаным — паранейшаму праблема.**

**Не кажучы ўжо пра выхадныя дні, калі, як вы разумееце, і работнікі харчгандлю любяць адпачываць, то і ў будзень знайсці магчымасць выпіць шклянку вады ў цэнтры горада — накшталт адшукання аазіса ў пустыні.**

Чыгуначны вакзал. Вялізная чарга ля хлебнага магазіна — тут прадаюць квас. Але ж як марудна чарга тая рухаецца... Знайсці альтэрнатыўную кропку — праблема. Не, можна ў кіёску купіць бутэльку мінералкі «Мінская № 4», адчыніць яе аб вугал і кінуць у сметніцу. Толькі не кожнаму такая працэдура ў асалоду, ды й шклянкі б яму хапіла... Праўда, і ля прыгарадных кас на пероне прадаюць квас, але і тут тая ж знаёмая сітуацыя...

У «Брыльянтавай руцэ», як вы памятаеце, Лёнік вучыў Казадоева не пераблытаць, каму ўручыць кветкі, а каму — марожанае. На мінскім вакзале не пераблытаеш ніколі. Бо калі з ружамі і гваздзікамі ўсё ў парадку, то дзіцячы ласунак — днём з агнём не знойдзеш. Дакладней, можна выстаяць за невялічкім вафельным стаканчыкам, які прапануюць камерсанты, але іншых варыянтаў няма.Затое ў вагоне электрычкі хлопцы-карабейнікі марожанае вам прапануюць, але ўдвая даражэй, чым у краме, за 60 рублёў. Дзе толькі яны бяруць тыя скрыні, з якімі «даходзяць» ці не да кожнага цягніка?! (Пытанне і адказ, пэўна, рытарычныя — там, дзе астатнія не могуць купіць).

Зрэшты, такі малюнак, абрыдлы і, лічу, непрыстойны для нашага горада, на жаль, паўсюдна. Ці то праспект Скарыны, ці то парк адпачынку. Калі ёсць чарга — значыць ёсць нейкая асвяжальная крыніца, у іншым выпадку — трывай, колькі можаш, або прыпадай вуснамі да Свіслачы бы абаронца Брэсцкай крэпасці.

... Учора я яшчэ раз праехаў па праспекце. «Перасохлі» «Мінеральныя воды Лагідзе» ля «Букіністычнай кнігі» і універсама «Цэнтральнага», цыгарэтамі ды цукеркамі гандлююць тут жа кіёскі «Марожанага», бананы, кніжкі, зялёны гарошак, не тою вадою гандлююць «Гаспадары», «Галсы» і іншыя «ЛТД», як вымерлыя дыназаўры стаяць паржавелыя аўтаматы па продажу газіроўкі. Вядома, я ўпэўнены, што прадаецца дзе-небудзь і марожанае, і «Пепсі», і квас, але перакананы, што трэба, каб не мы шукалі гэтыя гандлёвыя кропкі, а яны нас.

• ПАДПІСКА 93: КРЫТЫЧНЫ СІГНАЛ

## ЗВЫЧАЙНАЯ ГІСТОРЫЯ: рука правая не ведае, што робіць левая

ЛАРЫСА КОКТЫШ, «ДВ».

У рэдакцыю «Добрага вечара» дагэтуль звяртаюцца разгубленыя падпісчыкі: маўляў, вы пісалі, што газета на паўгода будзе каштаваць 420 рублёў, а на самой справе паштавікі бяруць з нас больш грошай — 582 рублі. Як гэта разумець?

І сапраўды, як гэта разумець? З гэтым пытаннем мы звярнуліся да інжынера аддзела па распаўсюджванню друку дзяржаўнага прадпрыемства «Мінская пошта» Т.В.БУРКЕ.

— Гэта проста непаразуменне, — адказала яна. Мы ўсім паштовым аддзяленням горада паведамілі аб змене кошту падпіскі на «Добры вечар» яшчэ месяц таму назад — 31 красавіка.

Таццяна Віктараўна сказала таксама, што існуе наконт гэтага спецыяльны загад на «Мінскай пошце» — № 41.

Але.. відаць, не ўсюды аб ім ведаюць. Газета ўжо пісала аб выпадках «непаразуменняў» у 118-ым, 113-ым, 17-ым паштовых адзяленнях. Ці не занадта? Ведаеце, усюду хапае бракаробаў, адказала Т.В.Бурка. І запэўніла, што больш такіх выпадкаў не будзе. Бо недалей як на мінулым тыдні кіраўніцтва «Мінскай пошты» зрабіла рэйд па аддзяленнях і праверыла дасканала, ці ўсюды ўнесены змяненні ў каталогі. Усё добра.

Няма падстаў не верыць адказнай асобе.. Тым больш, што тое самае паведаміла і загадчыца гэтага адзела Валянціна Мікалаеўна Сімакова: так, была праверка, цяпер будзе ўсё, як належыць. І тым не менш на ўсялякі, як кажуць, выпадак, мы ўсё ж вырашылі звярнуцца ў некаторыя аддзяленні самі з гэтым простым пытаннем: «Колькі каштуе падпіска на «Добры вечар»? Як кажуць, давярай, але ж і правярай. І што ж адчулі ў адказ?

У большасці аддзяленняў называлі правільны кошт — 420 рублёў. Так што казаць, быццам усюды дзяруць паштавікі з грамадзян лішніягрошы, няма падстаў. Але былі і знаёмыя ўжо нам «непаразуменні».

— Падпіска каштуе 582 рублі, так у каталогу, — адказала, напрыклад, загадчыца 25-га паштовага аддзялення. Чаму ж так дорага? Дык, маўляў: «Такія цены далі на Паштамце». Потым аднак высветлілася, што загад № 41 у аддзяленні ўсёж-такі ёсць, але загадчыца аб тым не ведала, бо дагэтуль была хворая. Але, вядома, існаваў нехта, хто павінны быў выправіць каталогі.

— Той каталог, што ў кліента, ужо выпраўлены, — запэўніла Н.А.Сысой. Такі ж адказ — аб кошту падпіскі на «Добры вечар» 582 рублі — далі на 34-ым паштовым аддзяленні.

— А што, хіба змяненні былі? — здзівіліся на тым канцы дрота. І потым ужо раззлавана: «Выпраўленні прыходзяць кожны дзень!» І кінулі трубку.

Удалося ўсёж-такі даведацца, што гэтак груба на тэлефонныя званкі-даведкі адказвае Надзея Ільінічна Песіна. Так, культура асобы ды да таго на службовым месцы — гэтая тэма, як кажуць, вечная. І доказ таму — рэзкія, грубыя адказы на званкі ў многіх паштовых аддзяленнях. Хіба калі даведаюцца, што гаворыць з рэдакцыі, ды трохі пацішэй робяцца (да слова, усё жанчыны!).

Пошта № 43 гадзіннікавага завода.

— 582 рублі каштуе падпіска на «Добры вечар», — быў такі адказ. Загадчыца прынесла такія табліцы, вось тут так напісана — 582 рублі. Ну, добра, потым нават падзякавалі ў трубку, навядзём парадак.

І на пошце № 72 Акадэміі Навук такі адказ — 582 рублі: «У каталогу так!»

— Няма ў нас аніякага загаду, — сказала яе кіраўнік Паліна Іванаўна Карпенка. — Наогул жывем тут, быццам на незаселеным востраве...

Аператар 46-га паштовага аддзялення таксама адказала на пытанне аб кошце падпіскі ўпэўненна: 582 рублі. Потым высветлілася, што «у дзяўчынак у другім каталогу папраўлена, а вось у гэтым — не».

Таксама спасылалася на каталог і ў 105-м філіяле (ад 83-га п/а) Тамара Аляксандраўна Санько: «Па нашаму — 582 рублі».

Вядома ж, усе паштовыя аддзяленні абзваніць было немагчыма, але і выбарачная рэдакцыйная праверка паказала, што «непаразуменняў» можна чакаць і далей, калі кіраўніцтва, адказнае за падпіску, не наладзіць у сваім ведамстве належны парадак.

Канешне, можна спасылацца на цяжкасці часу, якія, бязумоўна, ёсць. Але, згадзіцеся, што на працягу месяца не дабіцца ад сваіх падначаленых выканання свайго ж загаду — гэта занадта.

— Што вы гэтак хвалюецеся? — дзівіліся некаторыя паштавікі. — Лішнія грошы мы сабе не возьмем, мы ж не гандаль. Усё роўна розніцу вернем людзям.

Але якім чынам? Вядома ж, у любым выпадку падпісчыку — турботы. Трэба за гэтымі грашыма зноў ісці на пошту, зноў стаць у чаргу і г.д.

Вось жа дзіва-дзіўнае. Ні для каго не сакрэт, што вялікі кошт падпіскі як раз і набягае «дзякуючы» кошту паштовых паслуг. Але з самага пачатку гэтыя паслугі — нібы нейкая ласка, да якой сыходзяць паштавікі.

Але ж гэтак не павінна быць. Адносіны паміж рэдакцыямі (любымі) і поштай павінны быць у першую чаргу партнёрскімі, дзелавымі. Таму спадзяемся, што нашы падказкі наконт несвядомых паштовых аддзяленняў кіраўніцтва «Мінскай пошты» прыме да ўвагі і хутка навядзе ўсюды парадак.

**Чытачам жа яшчэ раз напамінаем: падпіска на «Добры вечар» каштуе 420 рублёў на паўгода. І ні на рубель больш — на працягу ўсяго года.**

● ПАНОРАМА ПРИЛАВКА

# "ЗАЛАТЫ ПЕЎНІК" ПРОБУЕТ ГОЛОС

ТАМАРА МАРКИНА, «ДВ», ФОТО ЮРИЯ ЗАХАРОВА.

**Два взгляда на фирменную торговлю. Один — любительский, точнее, потребительский — взгляд корреспондента, постоянного участника торгового марафона. Второй — профессиональный — взгляд работников министерств и ведомств, проводивших исследование фирменной торговли, которое было обобщено Госэкономпланом. Госэкономплан в свою очередь сделал выводы.**

«Наши возможности по потреблению туалетной бумаги поистине безграничны», — смеялся сатирик. Его утверждение попрежнему актуально. И, судя по решениям наших политиков и экономистов, нам еще долго смеяться над собой по этому поводу.

Экономикой по-прежнему правит дефицит. Однако есть в ней и островки торгового благополучия. Относительного. Это магазины фирменной торговли. Конечно, ассортимент их невелик, но все же больше, чем в обычных гастрономах и промтоварных. А качество просто классное.

С начала года в Республике Беларусь работало 259 фирменных магазинов. В их числе 29 — по торговле мясными продуктами, 15 — молочными, 58 — горячим хлебом, 65 — магазины и павильоны по продаже мяса, птицы и яиц. Остальные — магазины предприятий легкой промышленности, строительных материалов, иных отраслей экономики. В последние месяцы, в том числе и в Минске, появился ряд новых.

Могут ли в существующих условиях кризисной экономики эти магазины выполнять свою главную задачу: изучать спрос на продукцию предприятия-изготовителя, хозяина, апробировать новые изделия для ускоренной их поставки на серийное производство и, естественно, обеспечить сервис поставки. В какой-то мере да, но не в полной.



Взять к примеру «Залаты пеўнік» ПО «Белптицепрома». Сюда на Старовиленский тракт Минска съезжается полгорода, чтобы ухватить за хвост не посиневшего цыпленка, а только что выпотрошенного петушка, пусть не золотого. Товар здесь что надо. Правда, очереди. Только где их нет? А главное, здесь есть выбор, и не такой, как в иных гастрономах.

Когда мне удалось побывать в «Залатым пеўніку», там торговали цыплятами, гриль-курами, копчеными цыплятами, куриными грудками. На улице в киосках шла бойкая торговля суповыми наборами. Работало кафе-бар, где можно было отведать свежеприготовленного петушка. Для запасливых витрины предлагали кур в собственном соку. Заместитель директора магазина Людмила Анатольевна СИГУТКИНА уверена, что коллектив выполняет свою миссию по изучению спроса покупателей:

— Из всей продукции в последнее время у нас плохо шли лишь куриные грудки по 700 рублей за килограмм. Естественно, эта весть сразу же пошла в объединение. Информационному обеспечению производителей способствуют и ежедневные заявки, которые мы им отправляем.

Несколько позже, в канун Пасхи, довелось посетить и фирменный магазин первой минской птицефабрики с романтичным названием «Белые росы», что открылся по улице Я.Коласа, 9. Скажу я вам, впечатление удручающее. В двух торговых его залах, кроме яиц, не было никакого фирменного товара. Народ требовал птицы, продавец привычно парировала:

— Не знаю, что и когда будет. Идите к директору.

Вот вам и сервисное обслуживание. Конечно, по одному дню работы сложно судить об эффективности деятельности предприятия в целом. Как правило, товарооборот фирменных предприятий выше, чем у обычных. Тем не менее рядовому покупателю, приехавшему за сто верст в «Белые росы» за цыпленком, не легче.

Более благоприятное впечатление производят фирменные магазины, работающие от хлебозаводов. Стабильные очереди свидетельствуют о спросе на горячие ароматные батоны и ржаные караваи, которые продает магазинчик при хлебозаводе № 1 г.Минска. Дешевле на пару рублей чем в ином хлебном, а какой вкус, — дороже бы дал...

Конечно, видавший виды покупатель понимает, что наши обычные магазины уже много лет никак не могут решить проблему оперативной доставки неостывших плетенок да иных хлебов (мол, транспорт у хлебопеков не свой). Но желудку и душе не прикажешь, им свеженького подавай, не успевшего окаменеть... И покупатель, как всегда, прав. Потому и едет в фирменный хлебный магазин.

Лишает очарования, но все-таки не отпугивает привычных ко всему минчан «комковая» направленность фирменной торговли. Огромные очереди собирает магазин хлебозавода № 3, что находится по Партизанскому проспекту недалеко от колхозного рынка. Естественно, горожане стоят за горячим хлебом, а не за спиртным с иностранными наклейками или весьма посредственными костюмами турецко-польского производства... Неужели магазин хлебопеков изучает спрос на такой «ширпотреб»?

С размахом работает собственный магазин ПО «Горизонт». Его торговые залы расположились в два этажа. Такие фирменные магазины, как этот, реализующий сложнотехнические товары производства своего предприятия, быстрее и проще решают с покупателями вопросы замены некачественных изделий. В них лучше предторговая подготовка этих товаров и выше профессиональные знания продавцов по особенностям их эксплуатации.

Положительным является и тот факт, что развитие фирменной торговли способствует расширению торговой сети в целом, так как ряд предприятий строит их, а в некоторых случаях реконструирует ранее не используемые для этих целей помещения за счет собственных средств. Это ПО «Горизонт», Минский хлебозавод № 3, Могилевская опытно-экспериментальная обувная фабрика, витебская швейная фабрика «Знамя индустриализации» и т.д.

В день моего визита на выставочном стенде стояло 8 видов телевизоров. Бери — не хочу. Покупатели брать не хотели: продукция дорогая, от 133015 рублей до 160435 рублей. Заведующая секцией Анна Иосифовна ЛИГАЙ поправила меня:

— Самые дорогие телевизоры марки 51CTV510ЕИ с немецкой трубкой стоят 228060 рублей. Наибольшим же спросом пользуется телевизор 51ТЦ 418Д за 121095 рублей.

При такой раскладке цен в этот день, по крайней мере, до обеда, спроса на телевизоры не было. Прибавляла уныния бестелевизорным и строгая табличка «Товар в кредит не отпускается».

Пожалуй, больше других в этот день реализовали свой покупательский спрос любители шампанского. За него в «Горизонте» просили дешевле, чем в коммерческих магазинах.

Так что же сегодня представляет из себя фирменная торговля? В какой мере она отвечает собственному предназначению и нашим покупательским интересам?

Бесспорно, это особый вид торговли, в большей степени отвечающий нашим непритязательным спросам. Однако где есть ассортимент, там нет доступности в ценах, где есть доступная цена — там нет широкого ассортимента. Перекосы нашей околорыночной экономики, монополизм в промышленности и захирелость нашего сельского хозяйства, а также вытекающие отсюда последствия не дают возможности фирменной торговле выполнять свою главную задачу: изучать спрос на продукцию предприятия-изготовителя, проводить выставки-продажи и покупательские конференции, отрабатывать ассортимент новых изделий с целью ускоренного их запуска в производство, обеспечивать образцовую сервисную торговлю и т.д.

В условиях разбалансированного рынка и недостатка ряда товаров народного потребления они превратились в обычные торговые предприятия со свойственными им недостатками. Это отмечается в итоговом материале, недавно обобщенном Госэкономпланом Республики Беларусь. В нем сказано, что во всех проверенных предприятиях установлены нарушения правил торговли. В 70 процентах из них отсутствовала необходимая информация для покупателей (правила торговли, телефоны вышестоящих и контролирующих организаций и т.д.). Из совершенных контрольных покупок 54 процента отпущены с обманом покупателя. Отдельные фирменные магазины не отвечают элементарным требованиям организации торговли. Это магазины «Фантазия» Гродненского тонкосуконного объединения, «Свежий хлеб» производственного объединения «Гроднохлебом» и другие.

Утратили завоеванные позиции даже первенцы белорусской фирменной торговли, где был накоплен значительный опыт организации этой работы. Так, в фирменном магазине «Луч» концерна «Беллегпром» (открыт с 1975 года) практически прекращены рекламные мероприятия, оборудование для показа образцов пустует.

В ходе проверки установлено, что в основном порядок ценообразования в этих магазинах соблюдается. Максимальный размер торговой надбавки в фирменных магазинах не превышает 20 процентов к отпускным ценам, а по многим видам продукции составляет от 5 до 15 процентов.

Проблема первая. Вместе с тем... Так как теперь плановые задания предприятиям по многим группам товаров народного потребления доводятся в денежном выражении и в течение года с учетом роста цен не корректируются, предприятия сравнительно легко выполняют и перевыполняют планы поставок по сумме.

Оставшуюся продукцию (в ряде случаев в значительных количествах) реализуют по своему усмотрению, в том числе и через фирменные магазины. В свою очередь уменьшение поставок в натуральных единицах в магазины других регионов республики отрицательно сказывается на обеспечении проживающего там населения. Например, витебская швейная фабрика «Знамя индустриализации» в 1992 году реализовала через фирменный магазин на 93,7 млн. рублей своих швейных изделий, что составляет 68,1 процента от поставки во все другие торговые системы области, или 11,4 процента от всей поставки торговым предприятиям республики.

Проблема вторая. Промышленные предприятия стали широко использовать фирменные магазины для обеспечения товарами повышенного спроса своих работников в ущерб интересам других покупателей. Минский фарфоровый завод через филиал своего фирменного магазина на территории завода продал своим работникам около 40 процентов предназначенной для фирменной торговли посуды. В ряде случаев под видом обеспечения своего коллектива осуществляется удерживание дефицитных товаров от продажи длительное время.

Госэкономплан констатирует, что в фирменном магазине Белорусского центра моды, при отсутствии в продаже, на складе до 25 дней хранилось на 500 тыс. рублей швейных изделий, пользующихся спросом. В фирменном магазине «Фантазия» Гродненского тонкосуконного объединения удерживались от общей продажи отдельные товары (ткань мебельная и пледовая) для продажи узкому кругу лиц. Заведующая магазином гомельской кондитерской фабрики «Спартак» скрыла от покупателей конфеты на сумму 364 тыс. рублей. В магазине «Беларускі гадзіннік» Минского часового завода под прилавками хранилось 385 наручных часов на 344 тыс. рублей. В большей или меньшей степени такое происходит практически во всех фирменных магазинах.

Проблема третья. Появилась тенденция, не свойственная пока другим торговым системам. Это реализация товаров повышенного спроса работникам магазина и предприятиям по сниженной наценке либо без нее. Так, без наценки были проданы 20 телевизоров «Банга» (по 19 и 38 тыс.рублей) и 15 пылесосов «Ауди-Пур» (по 12 тыс. рублей) в магазине Минского часового завода. Всего с 5-процентной наценкой были проданы своим работникам 1520 швейных изделий в магазине «Фарфор-стекло» Минского фарфоровго завода, в то время как на все товары в магазине применяется наценка 20 процентов.

В результате проверки выявлено 10 уголовно наказуемых фактов нарушений правил торговли, 58 аналогичных административных правонарушений, 15 случаев нарушений порядка занятия торговой деятельностью, обнаружено сокрытых от реализации товаров на сумму свыше 1,5 млн. рублей. По выявленным фактам виновные привлечены к уголовной и административной ответственности.

...Так нужна ли нам фирменная торговля? Конечно. Она способствует конкуренции. Естественно, по мере насыщения потребительского рынка борьба за покупателя будет расти. Как прогнозирует Госэкономплан, с увеличением производства товаров народного потребления внутри республики и растущими объемами поступления их из-за пределов Беларуси перед промышленными предприятиями неизбежно встанет необходимость изучения спроса. Они должны быть готовыми к этому и иметь соответствующую материальную базу, в том числе и фирменные магазины.

Время фирменных магазинов еще не пришло. Однако со стабилизацией экономики пробьет и их звездный час. И они смогут реализовать свой не востребованный сполна потенциал.



**НА СНИМКАХ: Кафе «Залаты пеўнік» (вид снаружи и внутри)**

● МЕРКАВАННЕ

# НЯМА ВЕРЫ ЎРАДУ

ГЕНАДЗЬ ЛАГУНОВІЧ.

У адзін з напружаных момантаў трансляцыі па радыё нечарговай сесіі парламента крыўдна стала, што не знаходжуся у Авальнай зале. Не, гэта было не ў час галасавання па самаму балючаму пытанню — аб лёсе нейтралітэту Беларусі (хаця не пашкодзіла б зазірнуць у вочы дэпутатаў, у якіх не задрыжала рука націснуць кнопку «за», што азначае ў рэшце рэшт дадатковае зніжэнне нашага жыццёвага ўзроўню). І не тады, калі В.Кебіч з пафасам запэўніваў народных выбраннікаў, што пакуль ён прэм'ер-міністр, дык і пасля далучэння да Дагавору аб калектыўнай бяспецы аніводзін наш хлопец не будзе адпраўлены ў гарачыя кропкі былога СССР.

Мне хацелася быць у парламенцкай зале ў той момант, калі ў адказ на гэтую тыраду-абяцанне раздаліся воплескі. Добра ведаючы, што парушыў бы парадак, я тым не менш голасна, каб чулася ўсюды, пракрычаў бы тады словы, якія круцяцца на языку: «Не верце, людзі, прэм'еру! Не верце міністрам!».

Зняверыўся ў іх канчаткова таму, што не хапае ўжо пальцаў рук, каб падлічыць, колькі разоў старшыня Саўміна не выконваў сваіх публічных абяцанняў. Калі ж нагадаем парушэнні ўрадам розных законаў і пастаноў Вярхоўнага Савета, дык для іх падліку хочаш не хочаш, а прыйдзецца, прабачце, разувацца. Ад гэтакай, шануючы вас, палітыкі страты нясе перш за ўсё найменш сацыяльна абароненая частка насельніцтва. Прычыны амаль заўсёды знаходзяцца аб'ектыўныя, а шукаюць іх часцей за межамі Беларусі.

Іншы раз можна было, зразумець Вячаслава Францавіча. Але ж ёсць справы, поспех якіх залежыць выключна ад яго самога. Памятаеце добра сустрэтае грамадскасцю абяцанне прэм'ера выступаць і размаўляць па-беларуску? Сёння рэдка чуецца з яго вуснаў беларускае слова. Яго інтэрв'ю тэлебачанню і радыё нярэдка гучаць не на той мове, на якой задаюцца пытанні. Упэўнены, нідзе няма яшчэ аднаго прэм'ера незалежнай дзяржавы, які так не шанаваў бы мову свайго народа. Не лепш ставіцца да беларускасці абсалютная большасць міністраў, урадавых чыноўнікаў.

Не пакідае раўнадушным падтэкст абяцання спадара Кебіча наконт вайскоўцаў. Словы «пакуль я буду прэм'ерам» нагадваюць мне мінулы год, калі над уладатрымальнікамі вісеў дамоклаў меч рэферэндуму. Вячаслаў Францавіч сцвярджаў, што зарубежныя краіны быццам згодны мець справу толькі з урадам, які ўзначальвае ён. І каб не парушалася выгаднае супрацоўніцтва з імі, уся яго каманда, маўляў, павінна заставацца на сваіх пасадах.

Цяпер у лепшых бальшавіцкіх традыцыях запускаецца новае «меркаванне»: Вячаслаў Францавіч адзіны, хто здольны прадухіліць адпраўку нашых грамадзян у полымя вайны. Выснова напрошваецца сама сабой — нельга і заікацца аб яго адстаўцы. Але паўстае пытанне: калі прэм'ер-міністр такі ўсемагутны, дык чаму дагэтуль ураджэнцы Беларусі ўдалечыні ад яе гінуць за невядома чые інтарэсы? Мне здаецца, што самай надзейнай гарантыяй ад усякіх выпадковасцей для нас — і ў пагонах і без іх — будзе пастаянны нейтралітэт краіны, які абавязвае тых, хто мае ўладу, не ўступаць ні ў якія вайсковыя хаўрусы.

Згодзен з выказваннем кіраўніка ўрада ў нядаўнім кароткім інтэрв'ю радыёстанцыі «Беларуская маладзёжная» адносна таго, што з дзяржавай не жартуюць (размова ішла пра першакрасавіцкі жарт). А вось ці згодзен спадар Кебіч з тым, што і дзяржава не мае права «жартаваць» з людзьмі, асабліва, калі справа ідзе аб іх бяспецы і жыцці.

І апошняе. Раней мы не раз чулі ад урадаўцаў, што яны самі сыдуць са «сцэны», калі выявіцца няслушнасць іх палітыкі. Сёння толькі сляпыя не бачаць банкруцтва гэтай каманды, якая ўсё часцей звяртаецца да старых, камуністычных метадаў кіравання ва ўсіх сферах жыцця, але ва ўсякім выпадку, старшыня Саўміна пакуль што не зрабіў заявы аб магчымай адстаўцы накшталт той, якая прагучала з вуснаў кіраўніка парламента на апошнім пасяджэнні нечарговай сесіі.

● ПЕРСПЕКТИВА

# ВСТУПЛЕНИЕ В ICC

ЛАРИСА МАКСЕ, контакт-лицо ICC в Республике Беларусь.

Работаю старшим преподавателем кафедры технологии хлебопродуктов Могилевского технологического института. Специальность — инженер-технолог по технологии переработки и хранения зерна, производственный стаж 11 лет. Работала начальником производственной технологической лаборатории (в Латвии), начальником цеха сортового помола (мельницы, в Могилеве), в институте с 1987 года.

В ноябре 1990 года по личной инициативе участвовала в симпозиуме «Экспресс-определение качества зерна» в Москве, который проводился под эгидой Международной организации по науке и технологии зерна — ICC.

В сентябре 1991 года написала письмо в Секретариат ICC в Вену, с просьбой об установлении научных контактов с учеными и специалистами других стран. Ответ был благожелательный, на мое имя на адрес института были высланы адреса и рекомендации, пришли ответы из Института зерна, картофеля и кормов в Детмолде (ФРГ), Опытной лаборатории в Вене, Центральной лаборатории хранения и переработки зерна в Варшаве. По рекомендации ICC и приглашению из Опытной лаборатории мукомолья участвовала в 20 заседаниях (конференциях) мукомолов в Вене в ноябре 1992 года, где выступила с докладом на немецком языке.

В июне 1992 года по просьбе, направленной от нашего института в Секретариат ICC в Вене, решением Генеральной Ассамблеи ICC Республике Беларусь придан статус наблюдателя в Международном обществе по науке и технологии зерна сроком на 2 года.

В республике должны быть сформированы Национальный научный комитет и Коммерческий комитет, ответственный впоследствии за уплату членских взносов, которые для нашей республики составят 4000$ в год (с учетом населения 10 млн. чел.). Затем при официальном вступлении в ICC в республике должен быть назначен Национальный делегат ICC, который будет участвовать в заседаниях Ассамблеи ICC и выполнять другие функции.

В Национальный научный комитет вошли и будут в дальнейшем входить представители всех организаций, пожелавших стать участниками общества и тех, кто в дальнейшем будет принимать участие. Поскольку инициатором явился наш институт мы разослали приглашения различным институтам и организациям Беларуси. Выразили желание стать организациями-участниками и представили свои кандидатуры для работы в Научном комитете, кроме нашего института: Белорусская сельско-хозяйственная академия (Горки), Белорусский научно-исследовательский институт земледелия (Жодино), Государственная комиссия по сортоиспытанию сельскохозяйственных культур, Могилевский комбинат хлебопродуктов, Витебский комбинат хлебопродуктов. Думаю, Академия аграрных наук также не откажется.

Мы пригласили Генерального секретаря ICC господина д-ра Х.Глаттеса посетить наш институт, Республику Беларусь, получили его согласие. 5 апреля в нашем институте во время визита господина д-ра Х.Глаттеса прошла встреча с членами формируемого Национального научного комитета, а также интересующимися деятельностью ICC учеными и специалистами производства.

Отношение министерств ко вступлению Республики Беларусь в ICC и визиту Генерального секретаря ICC господина д-ра Х.Глаттеса характеризует их «здоровье». Министерство сельского хозяйства и продовольствия выразило желание сотрудничать и назначило время встречи, в которой должен принять участие зам. министра Ю.М. Дедук. Министерство сельского хозяйства и продовольствия готовит предложения в Совет Министров по вступлению Беларуси в ICC официальным членом (информация устная).

Министерство хлебопродуктов относится к сотрудничеству с ICC двулично. Зам. министра Л.Ф.Крыжановский провел недипломатичные телефонные разговоры с различными инстанциями, выразив свое полное неудовольствие. Поскольку это министерство является своего рода монополистом, инициатива снизу не всех устраивает.

Польза и выгода республике от участия в ICC — несомненны, особенно сейчас. Ведь Беларусь не обеспечивает себя продовольственным зерном, а для производства пшеничной муки вообще используется только завозимое зерно. Если научный потенциал в области выращивания, селекции и семеноводства относительно мощный, то область технологии переработки и хранения зерна, хлебопечения очень слаба научно (мощные институты остались в Москве). Поэтому особенно важны становятся информационные научные контакты, участие в конференциях, проведение совместных научных исследований и т.д.

У нас в Могилевском технологическом институте есть кафедра технологии хлебопродуктов, где готовят специалистов по технологии переработки и хранения зерна, технологии хлебопекарного, кондитерского и макаронного производства, и параллельно преподаватели «занимаются наукой», если вообще можно заниматься наукой без приборов и стимула (хотя бы морального). Научно-исследовательская работа, конечно, ведется, но уровень далеко не европейский, может быть, поэтому большая часть преподавателей кафедры не претендовала на участие и работу в научном комитете и к моим поездкам за границу относятся прохладно, администрация еще более холодно, расходы оплачивают приглашающие.

К сотрудничеству с ICC проявили интерес и принимают активное участие промышленные предприятия — комбинаты хлебопродуктов, Могилевский, Витебский — «они созрели научно». Например, Могилевский комбинат хлебопродуктов имеет мощную производственную технологическую лабораторию, которая по оснащению вполне подходит для современной научно-исследовательской.

Поскольку я с самого начала веду переписку с Секретариатом ICC в Вене, то являюсь для Секретариата Kontakt-persone, контактным лицом, к которому обращаются в случае необходимости, присылают информацию для членов научного комитета. Соответственно, я занимаюсь программой визита и обеспечением контактов.

Если тема сотрудничества Беларуси с ICC вас заинтересовала, возможно, нужна другая информация, прошу связаться со мной. Телефон кафедры: 44-32-50.

● ПРАБЛЕМЫ ЭКАЛОГІІ



# АХОВА ПРЫРОДЫ — З ДАПАМОГАЙ ЗАКОНА

## З «КРУГЛАГА СТАЛА» ЭКОЛАГАЎ РЭСПУБЛІКІ

МІХАІЛ ВАЛЬКОЎСКІ, «ДВ».

Як ахоўваць навакольнае асяроддзе ў прамысловых гарадах Беларусі? Гэта абмяркоўвалася на нарадзе дэпутатаў гарсаветаў і спецыялістаў гэтых гарадоў, якая адбылася днямі ў Мінску па ініцыятыве пастаяннай камісіі па экалогіі Мінгарсавета.

У гэтай важнай справе шмат недапрацаванага: плата за выкарыстанне прыродных рэсурсаў, эканамічныя механізмы аховы навакольнага асяроддзя... Усе дружна адзначылі, што падзаконны акт — пастанова Савета Міністраў № 183 практычна змяняе і адмяняе замацаваны ў «Законе аб ахове навакольнага асяроддзя» парадак выкарыстання пазабюджэтнага фонду аховы прыроды. Таму пункт восьмы пастановы трэба адмяняць, бо гэтыя грошы павінны выкарыстоўвацца толькі на прыродаахоўныя мерапрыемствы пад кантролем Саветаў. З вопытам расходавання сродкаў гэтага фонду ў Мінску азнаёміў прысутных старшыня пастаяннай камісіі Мінгарсавета па экалогіі М.Фрыдлянд. Прынцыповая пазіцыя камісіі, падкрэсліў ён, тая, што грошы, сабраныя са ўсіх прадпрыемстваў, потым не перадаюцца нейкаму аднаму на будаўніцтва ачышчальных збудаванняў, а выкарыстоўваюцца на вырашэнне агульнагарадскіх праблем. Калі і даваць грошы заводам, то на распрацоўку і асваенне новых тэхналогій, пры пераходзе на якія змяншаецца колькасць шкодных выкідаў. Так, з 911 млн.руб., якія складае гэты фонд, 300 млн. выдаткавана на будаўніцтва гарадской станцыі аэрацыі. Амаль усе астатнія сродкі мяркуецца накіраваць на іншыя буйныя праграмы, такія як экалагічная праграма развіцця горада, распрацоўка праектаў водаахоўных зон Свіслачы і малых рэчак, працякаючых у Мінску, новага ДСТА на якасць пітной вады, будаўніцтва лабараторнага корпуса гаркамітэта па экалогіі і г.д. Згадзіцеся, няма сэнсу ствараць ачышчальныя збудаванні, якія не садзейнічаюць змене тэхналогій, а наадварот — дапамагаюць кансерваваць старыя, што наносяць значную шкоду прыродзе.

Прагучала цікавая прапанова: каб экалагічныя падаткі не «заганяліся» ў сабекошт выпускаемай прадукцыі, а выплачваліся з прыбыткаў (у законе гэта норма ёсць, але адсутнічае дзейсны механізм яе рэалізацыі), былі дыферэнцыраваныя для розных тэхналогій, а таксама стымулявалі скарачэнне колькасці шкодных выкідаў, каб штрафы былі персанафікаваныя. Адно з пярэчанняў апанентаў — немагчыма дакладна вызначыць гадавую колькасць выкідаў у атмасферу, разліковы шлях (па якасці і колькасці сыравіны, прымяняемай тэхналогіі) найбольш прымальны, але адсутнічае агульнадзяржаўная методыка разліку выкідаў на адзінку прадукцыі. Дададзена, што вызначаць дапушчальную колькасць выкідаў неабходна, зыходзячы з гранічнай сумарнай колькасці выкіду іх у паветра горада ўсімі яго прамысловымі прадпрыемствамі.

Шмат прапаноў было і па ахове вады. На думку многіх, увядзенне лічыльнікаў-вадамераў дазволіць знізіць выкарыстанне пітной вады для бытавых патрэб на трэць (адпаведна знізіцца і колькасць сцёкаў).

Галоўная небяспека для ачышчальных збудаванняў і рэчак — выкіды гальванічных прадпрыемстваў, якія паступаюць у агульны калектар, разбаўляюцца, але ад гэтага менш шкоднымі не робяцца. Лепшыя меры барацьбы з імі — будаўніцтва дасканалых ачышчальных збудаванняў ці пераход на іншыя тэхналогіі. Без іх ніводнае прадпрыемства працаваць не мае права.

Шмат чаго набалела ў эколагаў. Размова была зацікаўленай, часам бурнай. Праблемныя, маштабныя пытанні не толькі ўздымаліся, але тут жа прапаноўваліся і абмяркоўваліся шляхі іх вырашэння. Экалагічнае невуцтва насельніцтва і гаспадарнікаў, нескаардынаваная праца шматлікіх органаў, што займаюцца аховай прыроды, хібы ў распрацоўцы прыродаахоўнага заканадаўства — вось тыя перашкоды, якія не даюць дасягнуць значных поспехаў у справе змяншэння нагрузкі на прыроду.

Па выніках нарады эколагаў прыняты зварот да Вярхоўнага Савета і Савета Міністраў, дзе выкладзены прапановы па ўдасканаленню дзеючага заканадаўства. Плануецца другую нараду эколагаў рэспублікі, прысвечаную ахове атмасфернага паветра, правесці ў Мінску ў кастрычніку.

